# ЗВЯЗДА

15 ліпеня 1998 г. серада, № 141 (23492)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў


## Дык ці будзе ўраган над Беларуссю?

**Некалькі дзён запар не сціхаюць чуткі, быццам у бліжэйшыя дні над краінай чакаюцца вялікія, разбуральныя па сваёй моцы, вятры. Падставай для іх, відаць, стала інфармацыя ў нядзельным выпуску «Тэлебарометра», дзе зазначылі, што ў аўторак-сераду чакаецца парывісты вецер, раілі людзям зачыняць дзверы, балконы. За больш падрабязнай інфармацыяй мы звярнуліся ў Белгідрамет.**

— Не, нічога мы не чакаем, у аўторак над Беларуссю праходзілі халодныя франты, на іх граніцах узнікалі навальніцы з ветрам, хуткасць якога дасягала 15—20 метраў. У сераду будзе значна спакайней, — і кінулі трубку...

Апошнім часам нараканняў на сіноптыкаў шмат, не ўспамінае іх хіба толькі самы лянівы. Спецыялістам гэта пачуць будзе, безумоўна, непрыемна, але, відаць, ім настаў час кардынальна мяняць стыль сваёй працы. Яна, безумоўна, патрэбная і надзвычай карысная, але існуе яшчэ такое паняцце, як імідж. А ён апошнім часам аказаўся, даруйце за каламбур, значна падмочаным. Канешне, надвор'е — рэч надзвычай капрызная, яна можа мяняцца літаральна за гадзіны, і віны сіноптыкаў у тым, што прагнозы нярэдка бываюць памылковымі, няма. Але чаму першым не зрабіць крок да ўзаемаразумення, не перадаваць для сродкаў масавай інфармацыі ўдакладненыя звесткі. Многія ўжо зведалі, што такое сапраўдны ўраган, таму зразумець людзей можна. У самім Белгідрамеце пацвердзілі, што ім апошнімі днямі тэлефанавалі ўсхваляваныя грамадзяне. Калі не будзе моцнага ветру, дзе абвяржэнне, шаноўныя панове сіноптыкі? Чаму журналіст чуе ад большасці спецыялістаў толькі раздражнёныя і абыякавыя словы, чаму, каб атрымаць інфармацыю, вымушаны званіць ледзь не па тузіну тэлефонаў? Ён што, асабіста баіцца прамачыць ногі, едучы ў вёску, ці яго заметка ў заўтрашнім нумары газеты будзе карыснай тысячам людзей? Як мне падалося з гутарак з некаторымі сіноптыкамі, яны чамусьці хвалююцца, каб іх не «разагналі», як гэта ўсё збіраецца зрабіць у Маскве Лужкоў. Але ад таго, што апошнім часам аб вашай працы (дакладней, іміджы) даводзіцца чуць усё менш добрых слоў, ці не набліжаеце вы самі гэты момант, калі вам патэлефануе ўжо не карэспандэнт за зводкай надвор'я, а ўжо нехта іншы і з другімі словамі?..

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Аншлагі ў магілёўскім касцёле Святога Станіслава

**Сёння ў Магілёве адбудзецца ўрачыстае закрыццё VI Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі «Магутны божа». Па традыцыі на пяць дзён у ліпені ў абласны цэнтры збіраюцца аматары духоўнай музыкі і спеваў.**

МАГУТНЫ БОЖА

У Магілёў з'ехалася больш як 400 удзельнікаў і гасцей з Беларусі, Польшчы, Украіны і Расіі.

Асноўныя расходы па арганізацыі сёлетняга фестывалю ўзяла на сябе гарадская ўлада. Дапамаглі і спонсары — магілёўскія прадпрыемствы, установы і арганізацыі.

Такім чынам, лічаць прадстаўнікі гарадской «вертыкалі», бюджэту «Магутны Божа» абыдзецца не вельмі дорага, тым больш, што магіляўчане ахвотна бяруць удзел ва ўсіх фестывальных мерапрыемствах — канцэрты і ў архікатэдральным касёле Святога Станіслава, і на адкрытых пляцоўках Магілёва, нават нягледзячы на дрэннае надвор'е, нязменна праходзяць з аншлагамі.

У адрозненне ад леташняга юбілейнага свята духоўнай музыкі ў Магілёве, у якім бралі ўдзел толькі лаўрэаты мінулых фестываляў, сёлета зноў праводзілася конкурсная праграма. За прэстыжныя званні пераможцаў фестывалю «Магутны Божа» змагаліся 25 харавых калектываў, вакалістаў і арганістаў. Журы конкурсу па традыцыі ўзначальваў народны артыст СССР, акадэмік Акадэміі музыкі Рэспублікі Беларусь Віктар Роўда. У саставе журы — вядомыя беларускія музыканты Ганна Каржанеўская, Любоў Каспорская, Віктар Скарабагатаў, захавальнік фонду Францыска Скарыны ў Брытанскай каралеўскай бібліятэцы Гай дэ Пікарда і кампазітар з Санкт-Пецярбцурга Ігар Маціеўскі.

— Умовы конкурсу заўсёды аднолькавыя, — сказаў Віктар Роўда. — Спявай добра, чыста, граматна, музычна і з душой. Іншымі словамі, выходзь на сцэну і будзь артыстам!

Хто ж з удзельнікаў конкурсу, на думку аўтарытэтнага журы, найбольш адпавядае гэтым умовам, будзе аб'яўлена сёння на ўрачыстым закрыцці фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа».

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Аляксандра ЛІЦІНА.**

**Мае сонейка...**

Фота Юрыя ЗАХАРАВА.

## ПАМЫЛКІ ПЕРШЫХ ПОСТЧАРНОБЫЛЬСКІХ ГАДОЎ ПАВІННЫ БЫЦЬ ВЫПРАЎЛЕНЫ

**Раёны, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, пастаянна знаходзяцца ў зоне асаблівай увагі прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. 14 ліпеня ён зрабіў чарговую рабочую паездку на Гомельшчыну. Цяпер свой маршрут кіраўнік дзяржавы пачаў з наведвання Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, а таксама саўгаса «Судкова» Хойніцкага раёна.**

Як вядома, у выніку адной з буйнейшых тэхнагенных катастроф стагоддзя з сельскагаспадарчага абароту рэспублікі выведзена 265,4 тысячы гектараў зямлі. Аднак у апошнія гады змяніліся адносіны да забруджаных зямель. Па заяўках Гомельскай і Магілёўскай абласцей з 1993 года вернуты да жыцця 14,5 тысячы гектараў зямлі. Гэта праблема і стала прадметам размовы кіраўніка дзяржавы з супрацоўнікамі радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Аляксандр Лукашэнка азнаёміўся з умовамі жыцця і працы работнікаў гэтага прадпрыемства, якое было арганізавана пасля масавых перасяленняў з 30-кіламетровай зоны.

Як адзначыў дырэктар запаведніка Мікалай Варанецкі, апошнім часам гаспадарка робіць стаўку на развіццё гаспадарчаразліковых адносінаў. Напрыклад, створана дрэваапрацоўчая вытворчасць, прадукцыяй якой зацікавіліся спажыўцы не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, Германіі.

Аляксандр Лукашэнка азнаёміўся таксама з ходам будаўніцтва жылля ў саўгасе «Судкова». Ён заявіў, што распрацавана дзяржаўная праграма, якая прадугледжвае ўвядзенне ў строй штогод 4-5 добраўпарадкаваных дамоў у кожнай калектыўнай гаспадарцы рэспублікі.

У той жа дзень кіраўнік дзяржавы наведаў невялікую вёску Грыдні Нараўлянскага раёна. Лёс яе адлюстроўвае лёсы многіх палескіх вёсак, абпаленых попелам Чарнобыля. Некалі вялікая вёска, дзе была добра развіта сельскагаспадарчая вытворчасць, адразу ж пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС апусцела, яе жыхары былі адселены ў асноўным у Ельскі раён. Але паступова тут зноў ажывалі двары. Цяпер у вёсцы жыве 40 чалавек. У большасці сваёй — пенсіянеры. Але ёсць у Грыднях і дзеці, якія ходзяць у школу ў суседнюю вёску Вербавічы. 14 ліпеня ўсе яны з кветкамі, хлебам-соллю выйшлі сустракаць прэзідэнта, які прыляцеў сюды на верталёце.

Жыхар вёскі Аляксандр Кавальчук расказаў кіраўніку дзяржавы аб сваім жыцці, аб тым, колькі ёсць у прыватным сектары жывёлы, якія праблемы ўзнікаюць у жыхароў, што да гэтага часу лічацца самасёламі. Таму грыдзенцы звярнуліся да прэзідэнта з просьбай надаць вёсцы афіцыйны статус і забяспечыць усім яе жыхарам прапіску, згодна з месцам пражывання. Прэзідэнт тут жа даручыў старшыні Гомельскага аблвыканкама Мікалаю Вайцянкову, які суправаджае яго, станоўча вырашыць гэта пытанне. Нягледзячы на тое, што ў вёсцы жывуць у асноўным людзі пенсіённага ўзросту, яны актыўна займаюцца сельскагаспадарчай вытворчасцю, разводзяць жывёлу, сеюць збожжавыя. Той жа Аляксандр Кавальчук пахваліўся прэзідэнту, што ў мінулым годзе выкарміў бычка і прадаў яго дзяржаве. Пры гэтым мяса адпавядала ўсім неабходным санітарным патрабаванням. Са сваіх садоў грыдзенцы здавалі плодаагароднінную прадукцыю, у прыватнасці яблыкі. Ды і цяпер на іх участках выспявае нядрэнны ўраджай збожжавых. Таму яны звярнуліся да прэзідэнта з просьбай дапамагчы ім набыць збожжаўборачны камбайн, замацаваць яго ў суседнім калгасе «Кастрычнік», каб у перыяд жніва гаспадарка дапамагала сялянам убіраць збажыну. У гутарцы з прэзідэнтам вяскоўцы папрасілі яго і ўрад у будучым не праводзіць якіх-небудзь адсяленняў.

«Штогод бываючы ў чарнобыльскай зоне, — сказаў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка карэспандэнту БЕЛТА, — я заўважаю, наколькі мяняецца псіхалагічны стан людзей, якія тут жывуць. Трэба прызнаць, што ў першыя постчарнобыльскія гады было дапушчана нямала памылак пры адсяленні людзей з зоны радыеактыўнага забруджвання. Пры гэтым практычна не ўлічваліся іх думка, інтарэсы, жаданне застацца. Цяпер мы павінны выправіць памылкі мінулых гадоў, людзям, якія засталіся тут, стварыць найбольш спрыяльныя ўмовы для пражывання. У першую чаргу, мы павінны паклапаціцца аб медыцынскім абслугоўванні насельніцтва. Акрамя таго, яно павінна быць пастаўлена на адпаведны ўзровень непасрэдна ў саміх месцах пражывання. Мы павінны таксама актывізаваць будаўніцтва Гомельскага спецдыспансэра, які па сваіх параметрах адпавядае самым лепшым сусветным установам такога тыпу».

Петрыкаўскі раён стаў апошнім пунктам праграмы наведвання Гомельшчыны 14 ліпеня прэзідэнтам рэспублікі Аляксандрам Лукашэнкам.

Цікавасць кіраўніка дзяржавы да гэтага краю не выпадковая. Петрыкаў займае першае месца ў вобласці ды і ў рэспубліцы ў цэлым па ўзроўню беспрацоўя. Раён вельмі слаба развіты індустрыяльна. Акрамя гэтага, сюды прыбылі перасяленцы з забруджаных тэрыторый.

Амаль паўтара года таму дапамогу ў вырашэнні гэтых праблем раёну пачало аказваць Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У прыватнасці, у вёсцы Ляскавічы ўзведзены сучасны дрэваапрацоўчы комплекс, дзе ўжо сёння атрымалі работу каля 600 чалавек. У перспектыве гэта лічба можа патроіцца. Да 2002 года комплекс плануе выйсці на поўную акупнасць і разлічыцца з дзяржаўнымі крэдытамі. На гэты час тут, як плануецца, будзе перапрацоўвацца каля 100 тысяч кубічных метраў драўніны ў год. Прадукцыя комплексу знаходзіць гарантаваны попыт як у нас у рэспубліцы, так і за мяжой. На экспарт адпраўляецца каля 40 працэнтаў піламатэрыялаў.

**Віктар КОТАЎ, Ігар ХОМІЧ, Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## ДЭПУТАТЫ БУДУЮЦЬ ПЛАНЫ НА БУДУЧЫНЮ

**Перспектывы работы Камісіі па правах чалавека і нацыянальных адносінах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу на асеннюю сесію і на 1999 год учора абмеркавалі яе члены.**

Тры з чатырох законапраектаў, якія плануецца прыняць на наступнай сесіі парламента, будуць разглядацца ўпершыню. Гэта датычыцца змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб бежанцах», законапраекта «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» і доўгачаканага — «Аб Упаўнаважаным па правах чалавека ў Рэспубліцы Беларусь». У другім чытанні будзе разглядацца законапраект «Аб псіхіятрычнай дапамозе і гарантыях праваў чалавека пры яе аказанні».

Дарэчы, на пасяджэнні Камісіі па правах чалавека і нацыянальных адносінах падрабязна быў абмеркаваны ход распрацоўкі дакумента, які прадугледжвае ўвядзенне ў краіне інстытута Упаўнаважанага па правах чалавека. Паводле слоў старшыні камісіі Юрыя Кулакоўскага, парламент атрымаў заўвагі ад многіх зацікаўленых арганізацый адносна канцэпцыі закона. Парламентарыі звярнулі ўвагу, у прыватнасці, на водгукі і канкрэтныя прапановы Нацыянальнага інстытута законапраектнай дзейнасці, кансультатыўна-маніторынгавай групы АБСЕ. Законапраект, як было адзначана, у цэлым гатовы да прыняцця ў першым чытанні. Але між тым дапрацоўкі патрабуюць канкрэтныя артыкулы, сярод якіх адзін з самых прынцыповых — аб механізме выбараў ці прызначэння Упаўнаважанага па правах чалавека. Падчас пасяджэння члены камісіі катэгарычна адмовіліся ад магчымасці прызначэння гэтай асобы. Верагодна, у законапраект будзе ўключанана норма, паводле якой выбіраць упаўнаважанага будзе Палата прадстаўнікоў са згодай Савета Рэспублікі. А права вылучэння кандыдатур вырашана прадаставіць прэзідэнту, Палаце прадстаўнікоў, групе дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, Савету Рэспублікі і 50-тысячнай групе выбаршчыкаў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## РАШЭННЕ ЕЎРАСАЮЗА АБ УСТАНАЎЛЕННІ БОЛЬШ ЖОРСТКАГА ВІЗАВАГА РЭЖЫМУ ГРУБА ПАРУШАЕ ПРАВЫ ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ НА СВАБОДУ ПЕРАМЯШЧЭННЯ

**Савет Еўрапейскага саюза 13 ліпеня прыняў рашэнне, згодна з якім практычна ўсё кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь пазбаўляецца права на атрыманне ўязных віз у дзяржавы—члены Еўрапейскага саюза. Аб далучэнні да рашэння Еўрасаюза заявіў шэраг краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Такім чынам, кола візавых абмежаванняў для дзяржаўных служачых Беларусі пашырана да 25 дзяржаў Еўропы.**

Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе МЗС рэспублікі, Еўрасаюз, выкарыстоўваючы імкненне ўсходнееўрапейскіх дзяржаў уступіць у гэту арганізацыю, фактычна прымусіў іх падтрымаць такое рашэнне.

«Мы ў чарговы раз сутыкаемся з палітыкай двайных стандартаў, калі разам з дэкларатыўнымі заявамі аб дэмакратыі і свабодзе выбару ўсім астатнім еўрапейскім краінам прама ці ўскосна навязваюцца пазіцыі Еўрасаюза. Прыняцце гэтых санкцый носіць адкрыта дыскрымінацыйны характар, крайне ўскладняе правядзенне раўнапраўнага дыялога ва ўмовах, калі адзін з бакоў аказваецца фактычна выключаным з перагаворнага працэсу, груба парушае правы грамадзян Беларусі на свабоду перамяшчэння», — гаворыцца ў паведамленні МЗС.

У ім таксама падкрэсліваецца, што гэта чарговае сведчанне таго, як праблему, што носіць выключна тэхнічны характар, Захад ператварае ў магутны інструмент адкрытага палітычнага нацыску на кіраўніцтва і народ краіны, якая выбрала курс на правядзенне самастойнай знешняй і ўнутранай палітыкі. Выклікае здзіўленне і дзіўная «забыўчывасць» некаторых прадстаўнікоў дыпкорпуса, акрэдытаваных у Беларусі, якія вельмі хутка зусім забыліся пра свае прэтэнзіі да камунальных службаў у сувязі з перыядычным адключэннем электраэнергіі, перабоямі з гарачым і халодным водазабеспячэннем, нізкім тэмпературным рэжымам у жылых памяшканнях у зімовы перыяд.

У гэтай сувязі, адзначаецца ў паведамленні, варта нагадаць некаторыя падрабязнасці перадгісторыі ўзнікшага канфлікту. У свой час у якасці часовай меры ў распараджэнне заходніх дыпламатаў былі перададзены службовыя дачы былых кіраўнікоў Беларусі. Згодна з праектна-тэхнічнай дакументацыяй, гэтыя памяшканні першапачаткова не прызначаліся для пастаяннага пражывання. Паўстагоддзя, якія мінулі з часу іх пабудовы, таксама не дабавілі ім трываласці. Але даўно наспелае рашэнне аб правядзенні капітальнага рамонту і перасяленні кіраўнікоў дыпламатычных місій з загарадных рэзідэнцый было прынята беларускім урадам толькі тады, калі было завершана будаўніцтва добраўпарадкаваных кватэр.

«Гэты канфлікт у прынцыпе быў бы немагчымы, калі б Еўрасаюз поўнасцю прытрымліваўся Венскай канвенцыі, а не выбарачна выкарыстоўваў палажэнні гэтага дакумента. Такая рэзкая рэакцыя Еўрасаюза на рашэнне ўрада Рэспублікі Беларусь аб правядзенні рэканструкцыі комплексу «Драздзы», таксама як папярэднія дэмаршы, супярэчыць артыкулу 41 Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах, які сцвярджае абавязковасць для замежных дыпламатаў законаў і ўрадавых рашэнняў краіны знаходжання. Дастойна шкадавання імкненне Еўрасаюза гаварыць з суверэннай дзяржавай мовай дыктату і ультыматумаў. Выкарыстанне сродкаў і метадаў з арсеналаў часоў «халоднай вайны» можа прывесці да паяўлення раздзяляльных ліній у Еўропе і садзейнічаць пераносу праблем гэтага стагоддзя ў стагоддзе XXI», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы беларускага Міністэрства замежных спраў.

**БЕЛТА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 14 ЛІПЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 51000 | 54000 | 27700 | 29500 | 8000 | 8600 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 51000 | 55000 | 28100 | 30300 | 8150 | 8800 | |
| Пріорбанк | 51000 | 56100 | 28100 | 30900 | 8100 | 8900 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для беззаяўных разлікаў) | 38250.00 | | 21821.32 | | 300.00 | | Курс на 15.07.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.2130 | | 3.4530 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццa ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 72500 | 76500 | 40309 | 42544 | 10660 | 12311 | |
| Рэальнаабгрунтаваны курс | 62500 | 63000 | 34700 | 35000 | 1000 | 10100 | |

## УСМІХНЁМСЯ!

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*Ход канём?..*

Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

**У магазіне:**

— Бульба ёсць?
— Няма.
— А цыбуля і морква?
— Няма.
— Можа, часнок ёсць?
— Няма.
— Што ж у вас ёсць?
— Тут вам не бюро даведак!

**Прыходзіць чалавек у аптэку і пытае сродак ад молі.** Яму прапанавалі нафталінавыя шарыкі. Ён купіў карабку і пайшоў. На другі дзень ізноў прыходзіць і просіць даць яму яшчэ сорак каробак.

— Навошта вам так шмат?

— А я, калі кідаю шарыкі, не заўсёды трапляю.

## «Звязда» едзе ў Расоны

**15 і 16 ліпеня ў Расонах і Расонскім раёне будзе працаваць «выязная прыёмная» газеты «Звязда», Федэрацыі прафсаюзаў, Міністэрства сацыяльнай абароны і Міністэрства аховы здароўя.**

Яна пачне працаваць сёння ў 15 гадзін у памяшканні гарадскога Дома культуры Расон. Сёння ж, але ўжо з 19 гадзін, сустрэчы з насельніцтвам пройдуць аднаčасова ў вёсках Забор'е і Дворышча. Заўтра, 16 ліпеня, з 8 гадзін раніцы ўдзельнікі «выязной прыёмнай» будуць знаходзіцца ў вёсках Краснаполле і Сяляўшчына. На сустрэчу запрашаюцца ўсе зацікаўленыя жыхары раёна.

*ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ ЎСІХ*

## СЦЕРАЖОНАГА І БОГ СЦЕРАЖЭ:

### *ціхае паляванне не павінна наносіць шкоды здароўю саміх грыбнікоў*

*Прагноз магчымасці збору грыбоў, ягад і лекавай сыравіны ў 1998 годзе ў сувязі з радыеактыўным забруджваннем тэрыторыі Беларусі*

КАРТА-СХЕМА ЗБОРУ ГРЫБОЎ, ЯГАД І ЛЕКАВЫХ РАСЛІН на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь да 2000 года

УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ:
без абмежавання;
з абавязковым кантролем на радыеактыўнасць;
збор забараняецца.

Витебск, Кривичи, Любань, Лоск, Молодечно, Гайна, Борисов, Бобр, Крупки, Юратишки, Бастуны, Воложин, Ивенец, МИНСК, Березино, Могилев, Кричев, Гродно, Новоельня, Кореличи, Черіков, Климовичи, Талевичи, Молчадь, Кировск, Гольчицы, Корма, Жлобин, Чечерск, Гаврильчицы, Паричи, Селищи, Немержа, Поречье, Лунинец, Гомель, Антополь, Дрогичин, Житковичи, Петриков, Брест, Пинск, Тонеж, Хойники, Народичи, Брагин

***Якія высновы можна зрабіць з гісторыі? Адна з іх заключаецца ў тым, што сама па сабе гісторыя, яе вопыт мала каго вучыць. У поўнай меры гэта можна сказаць і пра наш «чарнобыльскі вопыт», асабліва калі размова ідзе пра будзённы, бытавы бок жыцця. Гэта азначае толькі адно: мы прыцярпеліся да нораву «мірнага атама».***

***А ён помсціць, і помсціць каварна. У тым ліку і грыбнікам, якія, ні аб чым не задумваючыся, прыносяць дамоў у кошыку разам з дарамі лесу і радыенукліды.***

***Зразумела, што прывыканне да небяспекі тым больш нябачнай для чалавека, — у яго псіхалогіі. Менавіта таму і неабходна ў чарговы раз папярэдзіць: забруджаныя радыенуклідамі зямля і лясы тояць у сабе вялікую пагрозу, калі да радыеактыўнага фактара адносіцца несур'ёзна. Што ў дастатковай ступені вынікае і з інфармацыі, якую прапануе старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі радыеэкалогіі раслін Інстытута эксперыментальнай батанікі НАН Беларусі, кандыдат біялагічных навук Вольга ЕРМАКОВА.***

**— Прапаную, Вольга Алегаўна, пачаць з агульнай інфармацыі: мінула больш як 12 гадоў пасля чарнобыльскай катастрофы — і што мы «маем» у выніку на сённяшні дзень?**

— Вучоныя інстытутаў Акадэміі навук год за годам вядуць няспынныя назіранні за змяненнем радыеактыўнасці прыроднага асяроддзя і паступленнем радыенуклідаў у расліны. У выніку выбуху ядзернага рэактара радыеактыўнаму забруджванню падвергласяя значная частка тэрыторыі Беларусі. Найбольш моцнае забруджванне адзначана на поўдні, усходзе і поўначы Гомельскай і поўдні Магілёўскай абласцей. Ёсць плямы радыеактыўнага забруджвання і ў іншых абласцях — Мінскай, Гродзенскай, Брэсцкай.

За час пасля катастрофы канцэнтрацыя цэзію-137 у глебах скарацілася прыкладна на 25 працэнтаў, а стронцыю-90 — на 20—22 працэнты ў сувязі з іх натуральным распадам.

Канцэнтрацыя адносна каротказывучых ізатопаў плутонію таксама пацярпела змяненні. Забруджаныя плутоніем плошчы ўвогуле невялікія і яны маюцца толькі на самым поўдні Гомельшчыны. Самае дрэннае тут тое, што частка плутонію-241 (з перыядам яго паўраспаду 14,4 года) ператварылася ўжо ў амерыцый-241 з перыядам паўраспаду звыш 432 гадоў. А гэта яшчэ больш небяспечныя для чалавека радыенукліды, яны вельмі рухомыя ў глебах, актыўна пранікаюць у расліны.

Зразумела, што ні пра які збор грыбоў і ягад у такіх мясцінах не можа ісці і гаворкі. Зрэшты, гэтыя тэрыторыі — асабліва ахоўваемыя, і збіраць дары лесу там ніхто не дазволіць.

**— Тут самы час успомніць пра «новую» канцэпцыю ахоўных мераў у аднаўленчы перыяд, якую хто-ніхто імкнецца прымяніць для прыняцця стратэгічных чарнобыльскіх рашэнняў. Хто і дзе бачыў, што на забруджаных радыяцыйным попелам землях поўным ходам пайшоў гэты «аднаўленчы» перыяд?**

— Так, граніца забруджвання тым жа цэзіем пакрысе адступае. Але сцвярджаць, што на забруджаных землях пачалося нейкае аднаўленне? Тут усё даволі праблематычна. Калі гаварыць пра тэрыторыі са шчыльнасцю забруджвання хоць бы 2-3 кі/кв. км і вышэй, то радыенуклідаў там засталося ў дастатковай колькасці. Значыць, няма месца і для «звышаптымізму». Для тых, хто на такіх землях нешта збірае, тут ужо ёсць рызыка.

Да гэтага часу я прама-такі са злосцю ўспамінаю, як у далёкім ужо 1987 годзе маскоўскія навукоўцы (яны практычна мала што ведалі, затое вызначалі вялікую навуковую палітыку ў чарнобыльскіх пытаннях) на вялікай канферэнцыі ў Мінску горача сцвярджалі, што пры ўзроўні забруджвання цэзіем 2 кі/кв. км бруднага на радыенукліды малака быць не можа. Між тым, колькасць нуклідаў у раслiннасці і каэфіцыент іх пераходу вызначаецца менавіта відавым саставам раслін на тых лугах, дзе пасвіцца жывёла. Фактаў, калі пры адносна невысокай шчыльнасці забруджвання цэзіем атрымліваюць брудныя прадукты, сёння дастаткова.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

## ЕЗДЗІЦЬ СТАЛІ БОЛЬШ!

**У I паўгоддзі 1998 года праз дзяржаўную мяжу Беларусі было прапушчана каля 9 мільёнаў чалавек і больш за 2,5 мільёна адзінак транспартных сродкаў, у тым ліку больш як 46 тысяч паяздоў і больш як 3 тысячы паветраных суднаў.**

У першым паўгоддзі беларускія пагранічнікі затрымалі больш за паўтары тысячы парушальнікаў мяжы. З іх на тэрыторыю рэспублікі спрабавалі нелегальна трапіць каля 500 чалавек.

Больш за 30 працэнтаў ад агульнай колькасці затрыманых — прадстаўнікі дзяржаў Афрыкі і Азіі.

Пагранічнікамі было спынена каля 600 спроб кантрабанднага перамяшчэння праз дзяржаўную мяжу валюты і матэрыяльных каштоўнасцяў на агульную суму каля 30 млрд. рублёў, у тым ліку 65 тыс. долараў ЗША, 6,5 тыс. нямецкіх марак і 72 тысячы дэнамінаваных расійскіх рублёў. Затрымана каля 3 кг розных наркатычных сродкаў і 36 адзінак халоднай і агнястрэльнай зброі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...выезд за мяжу простым людзям хутка будзе закрыты

**Сітуацыя вакол замежных паслоў можа ўжо ў бліжэйшы час адбіцца і на простых грамадзянах, — сцвярджае народная пагалоска. Маўляў, хутка шлях за мяжу будзе нам «заказаны», бо замежныя пасольствы проста не будуць выдаваць візы. У такой сітуацыі ў найбольшай разгубленасці апынуліся людзі, якія ўжо ледзь не пакавалі чамаданы, рыхтуючыся да адпачынку за мяжой. Ці не прыйдзецца ім памяняць замежную вандроўку на краявіды больш блізкія і родныя, з гэтым пытаннем мы звярнуліся ў шэраг зацікаўленых структур.**

**Першы званок — намесніку начальніка Упраўлення пашпартна-візавай службы МУС Валерыю КАЗЛОЎСКАМУ.**

— Калі шчыра, вы засталі мяне выпадкова, бо я зараз у водпуску. Але, наколькі я ведаю, ніякіх адпаведных папер наша служба не атрымлівала. Звярніцеся лепш у консульскае ўпраўленне Міністэрства замежных спраў.

**На пытанне адказвае начальнік консульскага ўпраўлення МЗС Міхаіл АЛЯКСЕЙЧЫК.**

— Не, я думаю, што гэтая сітуацыя простых грамадзян не закране. Прынамсі, у мяне склалася такое ўражанне пасля сустрэч з консульскімі работнікамі пасольстваў ФРГ, Францыі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Італіі. Яны гаварылі, што пакуль ніякіх рэкамендацый на гэты конт са сваіх краін не маюць. Таму і ёсць падставы меркаваць, што простых людзей усё гэта не закране.

*— Але апошнім часам гавораць, што ў многіх пасольствах нібыта па тэхнічных прычынах пачынаюць зацягваць выдачу візаў...*

— Я думаю, гэта сапраўды звязана з тэхнічнымі складанасцямі. Напрыклад, падчас гутаркі з работнікамі пасольства ФРГ апошнія зазначалі, што апошнім часам узрасла колькасць жадаючых атрымаць візу.

*— А Польшча? Нібыта з 1 жніўня, каб трапіць у гэтую краіну, трэба будзе афармляць візу?..*

— Сапраўды, яны ўводзяць больш танныя візы. Іх будуць выдаваць тым, хто не мае запрашэння або адзнакі ў пашпарце «АВ-службовая» і не мае турыстычнага ваўчэра. Каштаваць яна будзе недзе 5 долараў, на паўгода — каля дваццаці. Канешне, гэта найперш балюча ўдарыць па турыстычных фірмах, бо ваўчэр каштуе зараз недзе ўдвая даражэй. Але я параіў бы ўсё ж набываць менавіта ваўчэр, які выгадны тым, што гарантуе, скажам, пражыванне ў гасцініцы.

***Мы патэлефанавалі яшчэ ў некалькі пасольстваў. Адказ быў аднолькавы: ніякіх каментарыяў, на сённяшні дзень працуем у звычайным рэжыме, у тым ліку і па аказанню консульскіх паслуг...***

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

**У Мінску адбылася чарговая, 25-я камбінаваная міліцэйская эстафета, у якой прымалі ўдзел 16 каманд з розных падраздзяленняў і службаў мінскіх праваахоўных органаў.**

**Эстафета складалася з адзінаццаці этапаў і пачыналася з бегу на дыстанцыю 800 кіламетраў. У ходзе эстафеты госці мелі магчымасць пабачыць фігурнае вядзенне аўтамабіля, хуткую разборку і зборку пісталета Макарава, дзеянні групы захопу...**

**На працягу ўсёй эстафеты лідэрства ў сваіх групах утрымлівалі АУС па ахове метрапалітэна і ГУВПА, якія значна адарваліся ад сапернікаў у самым пачатку і, у канчатковым выніку, занялі ў сваіх групах першыя месцы.**

**Сяргей ПШОНКА.**
**Фота Максіма МАЛІНОЎСКАГА.**

